*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17(351)** **6 ТРАЎНЯ 1998 г.**

## На фінансавай пласе.

Пракуратура Партызанскага раёна г. Менска (пракурор С.Груша) накіравала ў гаспадарчы суд Менскай вобласці зысковую заяву ў інтарэсах ЖРЭА Партызанскага раёна (старшыня Фёдар Якімаў) аб высяленні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны з памяшкання па вуліцы Румянцава - 13. Асноўнай прычынай з'яўляецца запазычаннасць па арэндзе ў суме 240 мільёнаў рублёў. У зысковай заяве гэтыя 240 мільёнаў пераствалыліся ўжо ў 840 мільёнаў, з улікам пені, інфляцыі, штрафаў і яшчэ немаведама чаго.

Суд павінен быў адбыцца чацвёртага траўня ў памяшканні абласнога гаспадарчага суда.

Такім чынам праз штучна створаную запазычанасць, а механізм тут просты: ТБМ абавязалі плаціць па 10 долараў за квадратны метр, як самую крутую камерцыйную структуру, замік 1 долара належнага да аплаты нават па сучасных законах, дасягаецца, нарэшце, канцавая мэта — ТБМ даводзіцца да фінансавага краху.

У сувязі з гэтым ТБМ выказвае рашучы пратэст супраць чарговай хвалі ўціску на Таварыства і заклікае ўсе нацыянальныя і дэмакратычныя арганізацыі падаць свой голас у абарону Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

***Сакратарыят ТБМ.***

*Прыватная думка*

## Ні "зайца" рэжыму.

Тэрміны падрыхтоўкі газеты не даюць магчымасці паведаміць вынікі суда ўжо ў гэтым нумары, гэта мы зробім пазней, але спадзявацца тут няма на што. Машына сістэмы круціцца і спыніць яе можна толькі сілаю. А калі сілы няма ?

Сітуацыя вакол сядзібы ТБМ на Румянцава - 13 у напружаным стане снаходзіцца ўжо больш года. І хоць ведамства Ціцянкова, як здаецца, тут не пры чым, яны такой дробяззю не займаюцца, некалькі пакойчыкаў побач з Плошчай Перамогі некаму ўсё такі муляюць.

Фармальна ўлады нічога не парушаюць. Яны дзейнічаюць па закону. Мае ТБМ адзін шапік па продажы беларускай літаратуры, значыць яно камерцыйная структура, а раз так гані арэнду на "ўсю шпулю".

Спадзяванні кіраўніцтва ТБМ, што да нашай арганізацыі ўлады павінны адносіцца, як да "святой каровы", не маюць падстаў. Гэтыя ўлады нікому нічога не павінныя. Ім усяроўна, каго яны душаць, душыць жа ТБМ яшчэ і выгадна, тут Замятанін можа нават падзяку аб'явіць, а то і на пасадзе павысіць.

Таму першае, што трэба зрабіць кіраўніцтву ТБМ, гэта нарэшце пазбавіцца сіндрому той самай святой каровы. І калі старшыня ТБМ ці яго намеснікі не могуць пераступіць цераз уласную годнасць і не могуць пайсці на паклон да тых жа Ярмошына ці Пашкевіча, а, магчыма, і не трэба ісці, то тады неабходна паставіць і весці разумную эканамічную дзейнасць Таварыства. Нясе Таварыства страты з-за шапіка, шапік павінен быць прададзены ці перададзены прыватнаму прадпрымальніку, які юрыдычна быў бы не звязаны з ТБМ, але праводзіў палітыку ТБМ і выконваў тыя ж функцыі. Пасля гэтага трэба было ў судовым жа парадку дабівацца зніжэння расцэнкаў.

Не атрымалася. Праспалі. Што рабіць зараз? Цвёрда магу сказаць адно, **не плаціць** ! Калі сітуацыя паўстае так, то здаць штаб кватэру, хай апісваюць маёмасць, хай арыштоўваюць рахунак. Але не плаціць. Ні рванага "зайца".

У Менску за 100 долараў у месяц можна зняць 2-3 пакаёвую кватэру. Хай гэта будзе крыху не ў цэнтры. Не да раскошы. За 840 мільёнаў газета "Наша слова" можа друкавацца тры гады. Дык, што важней? Кіраўніцтву, безумоўна, відней. Але трэба ўлічыць і наступнае. Калі ТБМ нават і заплаціць запазычанасць, заўтра яна з'явіцца зноў і яшчэ большая, дык для чаго гасіць грошы.

Безумоўна, гэтае пытанне павінна паўстаць на Рэспубліканскай радзе, якая хутка адбудзецца, але як сябар гэтай Рады я не магу не выказаць сваю прыватную думку.

**Ні "зайца" рэжыму!**

***Станіслаў Суднік,***
***сябар Рэспубліканскай рады ТБМ***
***імя Францішка Скарыны.***

Увага! Змяніўся нумар тэлефона ў сядзібе ТБМ. Тэлефануйце, калі ласка, 2-84-85-11

## "НАША НОВАЯ ГАЗЕТА"


Наша новая газета

БНР

У Санкт-Пецярбургу -- новая беларуская газета.

Пакуль гэта невялікае інфармацыйнае выданне на дзве старонкі. Але, дзякаваць Богу, яно ёсць.

У газеце падаецца цікавы матэрыял пра Лявона Навасельскага, удзельніка выпрабаванняў падводнай лодкі К-27, на якой разгерметызаваўся ядзерны рэактар, капітана 1-га рангу, кандыдата тэхнічных навук актывіста Беларускага гісторыкакультурнага таварыства Санкт-Пецярбурга. Лявон Навасельскі памёр 1 траўня 1996 года ў выніку апраменьвання, атрыманага на К-27.

## "Кантакты і дыялогі"

Пабачыў свет трэ-ці нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў "Кантакты і дыялогі".

Як заўжды бюлетэнь перапоўнены карыснай, навукова-прафесійнай інфармацыяй пра стасункі беларусаў і Беларусі з усім светам. Вельмі карысным з'яўляецца пералік матэрыялаў пра такія стасункі, зроблены па ўсіх прафілях бібліяграфій, так што кожны можа знайсці патрэбны артыкул.

## "Сэрцам роднага слова краніся".

У Менску ў выдавецтве "Народная асвета" выйшла кніга складзеная прарэктарам па навучальнай і выхаваўчай працы Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны М. Воінавым і загадчыкам музея-лабараторыі Ф.Скарыны К. Усовіцкім з паэтычнай назвай "Сэрцам роднага слова краніся". У кнізе 426 вершаў пра беларускую мову 211 аўтараў.

## Габелен Ефрасінні Полацкай

У 1912 годзе, калі мошчы святой Ефрасінні Полацкай перавозілі з Кіева ў Полацк, жалобны картэж зрабіў кароткі прыпынак ў Рэчыцы, што на Гомельшчыне. У памяць пра гэтую падзею на тым месцы, дзе спыняўся картэж, паставілі крыж у гонар Ефрасінні Полацкай. Пад час вайны і рэвалюцыі крыж знік. І толькі ў 1996 годзе крыж быў адноўлены, і там, дзе Дняпро робіць паварот і з высокага берага адкрываецца далягляд на паплавы за Дняпром аж да самага небасхілу, паставілі капліцу, каб ушанаваць памяць нашай вялікайасветціны і заступніцы.

А нядаўна знайшліся таленавітыя мастакі ды добрыя майстрыхі на Рэчыцкай ткацкай фабрыцы і выткалі цудоўны габелен з выявай гэтай капліцы. Блакітна-пясочныя колеры габелену — як валошкі сярод спелага жыта, а сонечныя прамені вакол капліцы — як тыя надзеі, што падтрымлівае святая Ефрасіння ў нашых душах. Дык хай гэты невялічкі габелен асвятляе жыццё ў нашых хатах.

*Ніна Канунннікава, Гародня.*




*Мельбурн 13.04.1998 г.*
*(Аўстралія)*

Дарагі пляменнік Валодзя (адзін з сяброў ТБМ)

...Хачу Табе падзякаваць за прысланыя (у заказных пісьмах) паштоўкі, віншаванні, календар, а ў асаблівасці газеты, якія я атрымаў — усё, што было выслана Табою. Газета "Наша слова" ёсць выдавана на высокім узроўні літарацкім. Маеце добрыя літарацкія кадры і навукоўцаў у рэдакцыі. Толькі ў мяне ёсць адзін сумніў, ці гэтая газета зможа і далей стала выходзіць, не маючы фінансавых сродкаў, бо яе наклад вельмі малы, значыць, не маеце падпісчыкаў на Беларусі, яна зусім не распаўсюджваецца на ўсходняй Беларусі — а толькі на Заходняй

Газету трэба Вам ўсімі магчымымі сіламі выдаваць у якой Вы павінны бараніць у першую чаргу нашу родную мову, бо ж гэта ёсць ... "скарб наш найбольшы, на вечныя годы." і ўсведамляць нашыя народныя масы, аб пашане да роднага слова. Беларусь будзе незалежнай тады, калі народ яе будзе гаварыць на сваёй мове, а не мешанай трасянкай, расейска-беларускай, як гэта можна заўважыць у цяперашні час. Беларусь будзе толькі вольнай і незалежнай тады, калі яе народ будзе гутарыць на сваёй мове і то, пачынаючы ад прафесара ды канчаючы простым работнікам ці работніцай. Гэта і ёсць галоўная праблема нашага "адраджэння" і нашай будовы адроджанай дзяржавы.

Я ведаю, у якіх цяжкіх і неспрыяльных умовах Вы працуеце, але не трацьце надзеі, не падайце духам, " не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не умерлі."

***Дзядзька Валодзя і цётка Жэня.***

## Смех і грэх

Чытаючы ў чарговым нумары "Нашага Слова" ліст сп.Фурсовіча раптам спатыкнуўся на слове "вузкаэлітарны". Наш аднадумца з Докшыцаў закрануў шмат важкіх і балючых спраў, таму пачуваюся змушаным зрабіць удакладненне.

"Наша слова" — аматарскае, а не элітарнае выданне. Эліта прадугледжвае найвышэйшую якасць. "Нашаму слову" да такога узроўню — як да Месяца. Аматарскае — гэта пра яго, бо выдаюць яго і пішуць для яго не прафесіяналы найвышэйшага гатунку, а вайскоўцы, інжынеры, навукоўцы, настаўнікі і іхнія вучні — якая тут можа быць элітарнасць! Таму наклад у 2 — 3 тысячы газета мае не за сваю высокую якасць (няма гэтага), а па прычыне дэфіцыту беларускага слова, пра што, дарэчы, у тым жа нумары піша ліцэіст з Брэста.

Дзе сп. Фурсовіч пацэліў трапна — дык гэта ў тым, што няварта палягаць на старой методзе, на завядзёнцы, "пець старую песню". Патэнцыял традыцыйных заклікаў добра вядомы і выразна недастатковы. І ўсё болей людзей, як мне здаецца, прыходзяць да гэтай думкі.

Успамінаць пра эліту ў дачыненні да "Нашага слова" — і смех, і грэх. Смех, бо узровень газеты такі, што можна задаволіць толькі першыя, найпрацейшыя патрэбы свядомага беларуса. Грэх — бо нічога у газеты няма, акрамя добрых воклічаў. І не будзе ў бліжэйшай перспектыве.

Дылема "элітарнае ці папулярнае" не пагражае пакуль "Нашаму слову", бо сёння ёсць толькі неабыякавыя людзі, якія чытаюць, думаюць, пішуць. Клуб, як вызначыў сп Фурсовіч. Каб дасягнуць большага трэба шмат працы і часу. Я перакананы, што сёння малаважна, вялікім ці малым артыкулам аддае перавагу "Наша слова". Важнейшы выбар: ці надалей будзем гаварыць пра прыгажосць роднае мовы ў спадзяванні, што заклік нарэшце будзе пачуты народам пасля мільённага паўтору, ці будзем мець за мэту ўзняць беларушчыну да сапраўды элітарнага ўзроўню, які б прыцягваў усіх, нават упартых непачціўцаў, што сёння крывяцца пры гуках роднай мовы.

Пакуль, як мне здаецца, выбар большасці застаецца за першым варыянтам. Калі так, то — прабачце за эмацыйнасць — будзе нам не да смеху.

***Д.Жукоўскі, Гародня.***





# АДПІСКА

У канцы студзеня ў газеце "Звязда" быў апублікаваны запіс размовы чытачоў газеты з міністрам адукацыі Васілём Стражавым. Чытачы пыталіся, прасілі дапамогі, міністр адказваў. Адна з чытачак, Зоя Лук'янава з г. Менска, падзялілася сваім болем: "Які лёс беларускай мовы ў школе? У мяне ўнучка вучыцца ў беларускамоўным класе 38-й менскай школы і вучыцца вельмі ахвотна. Мы радаваліся за яе. А зараз беларускамоўныя класы "згортваюць". Класаў і школ з беларускай мовай навучання становіцца ўсё менш. Крыўдна за Радзіму.." Фактычна чытачка паведамляе міністру, што ў гэтай канкрэтнай менскай школе парушаюць ці намераны парушыць права бацькоў вучыць дзіця на беларускай мове, якое замацавана ў Канстытуцыі. Відавочна яна спадзяецца на нейкую дапамогу ад высокапастаўленай дзяржаўнай асобы, у чыім падначаленні знаходзіцца і гэтая школа.

Што ж адказвае міністр адукацыі? Адказ варты таго, каб яго працытаваць цалкам:

"Я бы хацеў сказаць Зоі Іосіфаўне, што Міністэрства адукацыі, органы кіравання адукацыяй на месцах, навукова-вытворчыя ўстановы, ажыццяўляючы моўную палітыку і кіруючыся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, забяспечваюць ва ўсіх тыпах навучальных устаноў права выбару мовы навучання. Створаны ўмовы для гарманічнага суіснавання, прапагандуецца лепшы вопыт па пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы ў школе.

У апошнія гады ёсць пэўнае скарачэнне колькасці беларускамоўных школ і класаў. Але мы будзем прымаць усе магчымыя меры, каб захаваць тое, што набылі, і пашырыць сферу ўжывання беларускай мовы. А гэта паступовы і доўгатэрміновы працэс."

Вось так! Аказваецца права выбару мовы навучання "забяспечваецца", умовы для ажыццяўлення гэтага права "створаны". Больш таго нават "прапагандуецца лепшы вопыт па пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы ў школе".

Чаму тады ў школе №38 "беларускамоўныя класы "згортваюць"? На жаль, як гэта бачна з адказу, становішча з "пашырэннем сферы ўжывання беларускай мовы" у канкрэтнай школе №38 міністра не зацікавіла. Ён нават злёгку не паўшчуваў адміністрацыю гэтай школы, прамаўчаў. Гэткае красамоўнае маўчанне міністра - своеасаблівая індульгенцыя для тых, хто усё такі "згортвае" беларускамоўныя класы. Варта сказаць спадарыні Лук'янавай: "Зоя Іосіфаўна, той адказ, што надрукаваны ў газеце - звычыйная адпіска ці адгаворка, калі міністр Вам сказаў гэтыя словы непасрэдна па тэлефоне. На з'ездзе настаўнікаў ён абвясціў пра "стабілізацыю становішча з выбарам мовы навучання", а вы са сваім болем не ўпісваецеся ў гэтую прыгожую карціну. Відаць у вашай школе яшчэ не ўсе беларускія класы "стабілізавалі".

Калі бацькі дзяўчынкі маюць гонар і настойлівасць, то толькі яны самі могуць абараніць сваё дзіця ад русіфікацыі, цвёрда стоячы на сваім і адначасна звяртаючыся ва ўсе магчымыя дзяржаўныя інстанцыі, а таксама ў грамадскія арганізацыі (перш за ўсё ў ТБМ) па дапамогу.

З лютага адчынілася прадстаўніцтва АБСЕ ў Беларусі, якое будзе сачыць за захаваннем правоў і свабодаў у нашай краіне. Вельмі пажадана, каб вы накіравалі ліст і туды."

У стылі міністра рэагуюць на скаргі не толькі шараговых грамадзян, а і дэпутатаў, яго падначаленыя. Вось прыклад. Дэпутаты Менскага гарсавета 18 лістапада 1997 года звярталюцца з дэпутацкім запытам да старшыні Мінскага гарвыканкама У. В. Ярмошына. Пры гэтым яны спасылаюцца на папярэдні свой зварот:

***"Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама на наш зварот не дало канкрэтнага адказу. Больш таго сёння напаўняльнасць класаў выкарыстоўваецца для ліквідацыі навучання пабеларуску. Так, у школе №82 закрылі ўсе першыя беларускія класы, у школе №191 ліквідавалі беларускі клас 15 верасня, тое ж плануецца зрабіць з восьмым з музычным ухілам у школе №130.***

***У сваім адказе на зварот камісіі начальнік упраўлення адукацыі інфармуе, што "рашэннем Мінгарвыканкама №574 ад 10 ліпеня 1997 г. была зацверджана сетка навучальных устаноў г. Мінска на 1997/98 навучальны год. Дадзенае рашэнне было ўзгоднена з дэпутацкай камісіяй па адукацыі". Аднак гэта не адпавядае сапраўднасці, бо ніякага ўзгаднення не адбывалася. Упраўленне не было нават гатовае прадставіць камісіі дадзеныя па стане беларускамоўнай адукацыі ў горадзе, неабходныя для гэтага запыта. Зыходзячы з вышэйсказанага і дзеля спрыяння рэальнаму функцыянаванню беларускай мовы, як адной з дзяржаўных у Рэспубліцы Беларусь, камісія Мінгарсавета па адукацыі, навуцы, культуры і маладзёжнай палітыцы прапануе:***

***1. Захаваць існаваўшую на пачатак 1997 навучальнага года сетку беларускіх школ у Мінску, як і беларускамоўныя класы ў рускіх школах без уліку іх напаўняльнасці..***

***2. Вучням, якія наведваюць аддаленыя беларускія школы, забяспечыць праезд у грамадскім транспарце дзяржаўным коштам, бо іх бацькам беларускамоўная адукацыя не павінна абыходзіцца даражэй, чым рускамоўная.***

***3. З 1998 навучальнага года ўдакладніць сетку школ такім чынам, каб з кожных 4-5 школ адна была беларускай, што здыме праблему малакамплектных беларускаамоўных класаў у рускіх школах."***

А вось адказ Гарадскога ўпраўлення адукацыі. На пяці аркушах апісанна "стабільнае" становішча з беларускай мовай у сталіцы: ёсць 15 беларускіх школ, 7,4% першакласнікаў вучацца па-беларуску, працуюць гурткі, ансамбль "Чабарок" і "Крынічка", ёсць фальклорныя калектывы, ёсць гурткі пляцення з саломкі, народнай вышыўкі, праводзяцца Гуканне вясны і Вячокі і г. д. Ёсць згадка пра цяжкасці: "Значная колькасць бацькоў, дзеці якіх навучаюцца ў класах з беларускай мовай навучання, катэгарычна патрабуюць пераводу навучальна-выхаваўчага працэсу на рускую мову. Напрыклад, па Савецкім раёне ў СШ №23, 91, 53, гімназія №20, па Кастрычніцкім - СШ №110, па Заводскім раёне СШ №82". Пішацца і пра тое, што клас у 130 школе не расфармавалі.

Вы можаце нарэшце спытаць, а ці аднавілі ўсё ж беларускі клас у 191-й мінскай школе? Не. Вось што пра гэта напісана ў адказе, падпісаным Начальнікам упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама сп. У. Варыводам: "З-за недахопу фінансавых сродкаў ліквідаваны 1-ы беларускамоўны клас з колькасцю вучняў 7 чалавек у СШ №191 Першамайскага раёна."

Цяпер яшчэ раз уважліва перачытаем прыгожыя словы міністра Стражава, які разам з усімі сваімі падначаленымі будзе "прымаць усе магчымыя меры, каб захаваць тое, што набылі, і пашырыць сферу ўжывання беларускай мовы". Каму яны адрасуюцца? Ствараецца ўражанне, што нам прапануюць удзельнічаць ў нейкай абсурднай рытуальнай дзеі на фоне паміранння беларускай школы, дзе на вокліч высокага чыноўніка "Есть проблемы?", мы нязменна павінны адказваць: "Нет проблем! Все о'кей!"

Адзіным адказам на гэта можа быць толькі наш дзейсны супраціў русіфікацыі.

В. Палсцюк

# Вы хочаце, каб ваша дзіця вучылася па-беларуску !

Таварыства беларускай мовы нагадвае законы, якія гэта гарантуюць і як дзейнічаць, калі законы парушаюцца:

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь**, арт 50:

"... Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам. Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".

**Закон "Аб адукацыі"**, арт. 6.

" ... Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашколдьных і навучальных установах..."

**Закон "Аб мовах"**, арт.22.

" Рэспубліка Беларусь гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права выхавання і атрымання адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ".

Ніякія іншыя інструкцыі, палажэнні і падзаконныя акты не могуць перашкодзіцьт рэалізацыі вашых правоў, калі яны супярэчаць вышэй пералічаным законам і Канстытуцыі.

**Што рабіць, калі ў школе адмаўляюцца прыняць заяву на навучэнне дзіцяці на беларускай мове ?**

Запішыце прозвішча, імя настаўніка, які вядзе прыём дакументаў. Карэктна папрасіце зноў прыняць заяву і зарэгістраваць яе ў спецыяльным журнале.

Калі вам зноў адмовяць, папрасіце напісаць прычыну адмовы і засведчыць гэта подпісам. Калі гэтага настаўнік не выканае, папрасіце, каб гэта зрабілі завуч або дырэктар школы.

Калі, нягледзячы на ўсе намаганні, вам адмаўляюць у праве вучыць дзяцей па-беларуску, пісьмова звяртайцеся да загадчыка аддзела адукацыі горада, або раёна з патрабаваннем забяспечыць ваша канстытуцыйнае права вучыць дзіця па-беларуску. Будзе дарэчы, калі копіі сваёй скаргі вы адашлеце на адрас Таварыства беларускай мовы.

**Што рабіць, калі беларускамоўны клас, дзе вучыцца ваша дзіця, пераводзяць на рускую мову навучання ?**

Тэрмінова складзіце заяву на імя дырэктара школы, дзе патрабуйце працягу навучання вашых дзяцей на беларускай мове. Знайдзіце сярод бацькоў вашага класа тых, хто падпіша разам з вамі гэты ліст.

Заяву зарэгіструйце ў школьнай канцылярыі, копіі адашліце на адрасы раённага, гарадскога аддзела адукацыі, Таварыства беларускай мовы.

Тэрмінова сустрэньцеся з дырэктарам школы, з загадчыкам раённага або гарадскога аддзела адукацыі, дзе патрабуйце спыніць парушэнне вашых правоў на атрыманне дзецьмі адукацыі на беларускай мове.

Калі вы бачыце, што клас, дзе вучыцца дзіця усётакі пераводзяць на рускую мову навучання, пікетуйце органы адукацыі, ці школу. Добра, калі пра пікет даведаюцца прадстаўнікі прэсы.

Калі вашыя высілкі не даюць плёну, звяртайцеся ў Таварыства беларускай мовы (менскі тэлефон 84-85-11, тэлефанаваць з 15.00 да 18.00 акрамя выхадных, адрас - 220034, г. Мінск, вул.Румянцава 13, ТБМ) або ў Беларускі Хельсінскі камітэт ( менскі тэлефон - 239-68-28, тэлефанаваць з 10.00 да 18.00 акрамя выхадных, адрас - г. Мінск, вул. Гікала 20-54).

Аб усіх парушэннях вашых правоў і правоў вашых дзяцей просім паведамляць пісьмова або па тэлефоне Таварыству беларускай мовы і Беларускаму Хельсінскаму камітэту.

Коратка і дакладна апішыце:

— у якой школе вам адмаўлялі ў праве вучыць дзіця па-беларуску;

— прозвішча, імя і пасаду таго, хто гэта рабіў;

— на якой падставе вам адмаўлялі ў беларускамоўным навучанні дзяцей, што пры гэтым казалі службовыя асобы, да якіх вы звярталіся;

__ дату, калі вы звярнуліся ў школу;

— прозвішча і імя дырэктара школы;

— свой адрас, тэлефон.

***Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны***

# Самая — самая...

*Мову маю, песню маю*
*Я да грудзей прытуліваю.*
*П.Панчанка.*

Сонечная, добрая, спеўная... А чаму самая — самая ? Таму што родная. І яшчэ яна як бы дзявочая. Так, мне чамусьці здаецца, што неяк асабліва гучыць яна з вусаў дзяўчынак, дзяўчат, жанчын, бабуль. Няхай не крыўдуюць мужчыны, але ў ёй так шмат пяшчоты, міласці, святла і, здаецца, крышачку суму. Часамі — журботнага, а болей — светлага, спагаднага.

Яна — мова мая.

А нядаўна я прысніла мову. Русавалосую, блакітнавокую, шчырую. Яна была дзяўчынкай у белай сукенцы. Дзіўны сон ! Калі паглядзець у люстэрка, дык я ж — вылітая яна.

Мой тата настаўнік беларускай мовы. Працуе ў школе рускамоўнай, дзе беларускае слова гучыць толькі на ўроках роднай мовы. А крыху раней было не так. У першым класе, другім я вучыла ўсе прадметы па-беларуску. А пасля некаторыя бацькі і настаўнікі сабралі заявы, каб закрыць беларускамоўны наш адзіны клас. І закрылі. Тата забраў маю асабовую справу і перавёў мяне ў другую школу, дзе яшчэ беларускамоўны клас быў. На жаль, і ў гэтай школе ў пяты клас я пайшла ў рускі. Не знайшлося настаўнікаў, якія матэматыку, гісторыю ды і іншыя прадметы выкладалі б на беларускай мове.

Але няўжо ж так цяжка настаўнікам гаварыць па-беларуску ?

У школе, дзе я раней вучылася, некалі працаваў Уладзімір Караткевіч. На сцяне школы нават ёсць мемарыяльная дошка. А на беразе Дняпра стаіць помнік маладому Караткевічу. Мой тата кожны год чытае тут свае вершы перад вучнямі і гасцямі горада. Караткевіч так любіў Беларусь і нашу мову ! І пісаў : "Паміраю і веру..." Верыў у лепшы лёс Беларусі. А які ён будзе ?..

Кожнае лета я прыязджаю ў Мікалаеўшчыну. Адтуль мой тата. Гэта радзіма Якуба Коласа.

Там "льецца Нёман срэбраводны". "Дубы там дзіўнай чарадою стаяць, як вежы, над вадою". І лес там сасновы, добры, як мой нябожчык дзед Іван, і неба нейкае ласкавае, але сіне — засмучанае. Але галоўнае: там пачуеш на вуліцах роднае слова, а ў маёй Оршы — не, альбо вельмі рэдка.

Вось пакуль і ўсё, што я хацела сказаць пра сваю родную мову Пявучую, светлую.

І сумную ...

А закончыць сваё складанне — споведзь хачу такімі радкамі

***Жыццё змяняецца***
***нанова,***
***І шляху іншага няма,***
***Ці будзеш жыць ты,***
***мая мова ?***
***Ці ты праб'ешся***
***праз туман ?***

*Камароўская Вераніка*
*г.Орша, сш № 5, 5 "А" клас*

